

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 4 (591) 29 СТУДЗЕНЯ 2003 г.

# Пайшоў, ужо не вернешся ніколі...

***26 студзеня, у святую нядзельку ў рэанімацыі маскоўскай клінікі імя Бурдэнкі памёр стваральнік і кіраўнік ансамбля "Песняры" Уладзімір Мулявін.***

***27 студзеня з ім развіталася Масква. 28 студзеня вялікага песняра беларусаў правёў у апошні шлях Менск.***



"Адна ластаўка вясны не робіць", -- кажуць беларусы. Але Уладзіміру Мулявіну было наканавана стаць менавіта той ластаўкай, з якой у шырокай свядомасці беларускага народа пачалося нашае апошняе адраджэнне.

Менавіта Уладзіміру Мулявіну было наканавана прыйсці ў беларускую культуру на стыку 60-х і 70-х гадоў і падняць на сусветны ўзровень беларускую песню, беларускае слова, беларускую музыку. Менавіта У. Мулявіну ўдалося абудзіць у нашым пакаленні не толькі павагу да ўсяго беларускага, не толькі любоў, але і гонар, і ўпэўненасць у тым, што мы не горшыя за людзей, а ў шмат чым, можам быць, і лепшыя за ўсіх.

Песню "Касіў Ясь канюшыну...", з якой "Песняры" сталі лепшымі ў Савецкім Саюзе, ведалі і дагэтуль ведаюць напамяць усе 10 мільёнаў беларусаў, а ў пачатку 70-х ведалі практычна ўсе 250 мільёнаў "Вялікага і магутнага".

"Песняры" былі сімвалам майго пакалення. Мы ішлі за імі і побач з імі па гэтым жыцці, і мы ішлі з высока паднятымі галовамі і пачуццём гонару за тое што мы - беларусы.

"Песняры" з'явіліся, калі я быў недзе ў 7-м ці 8-м класе. І ад тога часу ні адна беларуская песня ў іх выкананні не засталася незаўважанай. А рускамоўныя "Крык птушкі", "Вологда" "Белавежская пушча", калі казаць сучаснай мовай, сталі ўсесаюзнымі хітамі.

Першае мае наведванне Купалаўскага тэатру ў Менску таксама звязана з "Песнярамі". Давалі "Песню пра долю", музычную паэму на вершы Янкі Купалы.

Першае маё знаёмства з савецкай цэнзурай звязана зноў жа з "Песнярамі". Мы, курсанты Менскай вайсковай навучальні, не памятаю ўжо якім чынам, даведаліся пра турнэ "Песняроў" па Злучаных Штатах. Больш таго, мы даведаліся, што "Голас Амерыкі" будзе цалкам перадаваць першы канцэрт "Песняроў" у Штатах. Здабылі добры прыёмнік, талковы магнітафон і налаўчыліся запісаць канцэрт. Але, як кажуць, не на тых трапілі. Пачынаецца канцэрт, даецца ці то інтэрвію, ці то ўступнае слова Мулявіна, абвяшчаецца першая песня і... уключаецца савецкая "глушылка". І не далі паслухаць і запісаць ні аднон песні...

... Мулявін пайшоў. Пайшла цэлая эпоха...

Нас, беларусаў і небеларусаў, тых хто адгадоўваў вусы ў войску называлі "песнярамі". "Я гэтых "песняроў" паразганяю", - крычаў камбрыг на лейтэнанта Станішэўскага з-пад Гомеля, якога ніякая савецкая ўлада так і не змусіла збрыць вусы. Нікуды ён не дзеўся, Станішэўскі насіў вусы, а камбрыг увесь дывізіён абзываў "песнярамі".

Нас, беларусаў у войску паважалі, бо ў нас быў Мулявін.

І, самае галоўнае, мы, выхаваныя на 17 старонках (столькі ў школьнай праграме займала дакастрычніцкая гісторыя Беларусі ў 70-я гады) пачалі паважаць саміх сябе.

Прайшло трыццаць з лішнім гадоў "Эпохі Мулявіна". Цяжар страты цісне сэрца. Мы сапраўды асірацелі. З Мулявіным было надзейней і спакайней, бо ён любіў Беларусь.

***Станіслаў Суднік.***





**Тысячы беларусаў прыйшлі развітацца з вялікім песняром.**



**У апошні шлях**

**Здымкі Станіслава Судніка каля Дома афіцэраў і ў скверы каля тэатра імя Янкі Купалы.**

# VIII з'езд Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" будзе скліканы 12 кастрычніка 2003 года

26 студзеня ў Чырвоным касцёле ў Менску адбылося паседжанне Рады Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". На парадак дня былі вынесены наступныя пытанні:



1. Справаздача старшыні ТБМ аб дзейнасці Грамадскага аб'яднання ў 2002 годзе.
2. Абмеркаванне і зацверджанне плана работы аб'яднання на 2003 год.
3. Абмеркаванне і зацверджанне канчатковага варыянту Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.
4. Вызначэнне даты склікання чарговага VIII з'езду ГА "ТБМ імя Ф. Скрыны" і квотаў на вылучэнне дэлегатаў.
5. Пра змены ў складзе сакратарыяту.
6. Прыняццё зварота да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў.
7. Прыняццё зварота да выбаршчыкаў.
8. Прыняцце пастановы "Аб наданні дадатковых паўнамоцтваў сакратарыяту ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".
9. Разгляд пісьмовага папярэджання Міністэрства юстыцыі ад 21 студзеня 2003 г. № 06-04/678
10. Рознае.

### *Пастанова Рады ТБМ імя Ф. Скарыны "Аб даце склікання чарговага VIII з'езду ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" і аб працэдуры вылучэння дэлегатаў на з'езд"*

**Рада ТБМ пастанаўляе:**

1. Склікаць чарговы VIII з'езд ТБМ у г. Менску 12 кастрычніка 2003 года.

2. Дэлегатаў на з'езд вылучаюць рэгіянальныя арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады па наступных квотах:
- Менская гарадская арганізацыя – 30 чалавек.
- Абласныя арганізацыі – 5 чалавек ад кожнай.
- Гарадскія і раённыя арганізацыі: да 50 чалавек – 1 дэлегат,
  ад 51 да 100 чалавек – 2 дэлегаты,
  ад 101 чалавека і болей – 3 дэлегаты.

3. Суполкі і арганізацыі, якія не стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады вылучаюць па аднаму паўнамоцнаму прадстаўніку з правам дарадчага голасу.

***Іншыя дакументы Рады будуць надрукаваныя ў наступных нумарах.***

# Суд паміж ТБМ Міністэрствам юстыцыі

27 і 28 студзеня ў Менску прайшлі два першых паседжанні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь па зыску ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" да Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь у сувязі з пісьмовым папярэджаннем, атрыманым грамадскім аб'яднаннем 26.11.2002 г. за ўстаноўку мемарыяльнага крыжа ў гонар лідскай шляхты і абвестку пра месячнік "Размаўляем па-беларуску".

Вынікі суда і рэпартаж з залы суда будуць змешчаны ў наступным нумары.

 



№ 4 (591) 29 СТУДЗЕНЯ 2003 г. наша слова

# БЕЗ ПРЫКАЗКІ І З ЛАЎКІ НЕ ЗВАЛІЦЦА

Імя доктара філалагічных навук прафесара Гарадзенскага універсітэта І. Я. Лепешава шырока вядомае ў нашай краіне як руплівага, таленавітага даследчыка беларускай мовы, чые працы вызначаюцца скрупулёзна-ўдумлівым і тонкім аналізам моўных з'яў. Вучонага-лінгвіста перш за ўсё цікавяць праблемы фразеалогіі, мовы мастацкай літаратуры, культуры мовы і маўлення, якія знайшлі творчае вырашэнне ў яго шматлікіх навуковых і навукова-метадычных працах, сярод якіх манаграфічныя даследаванні, навучальныя дапаможнікі, слоўнікі, артыкулы... Знаёмства з імі заўсёды прыносіць асалоду і задавальненне, бо напісаныя яны спецыялістам, які не толькі глыбока разбіраецца ў навуковых праблемах, але і тонка адчувае матчынае слова, ашчадна і беражна карыстаецца ім.

Такое ж светлае ўражанне пакідае і новая праца І. Я. Лепешава, падрыхтаваная ім сумесна з М. А. Якалцэвіч, - "Слоўнік беларускіх прыказак" (Мн. Бел. навука, 2002.-511 с.). Патрэба ў перавыданні гэтага слоўніка тлумачыцца тым, што першае выданне, якое выйшла ў 1996 годзе у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" 6-тысячным накладам і ўключала пад тысячу прыказак, адразу знікла з паліц кнігарняў. У другім выданні разглядаецца значна большая колькасць прыказак (каля 1500); амаль усе яны фіксуюцца парэміялагічнымі зборнікамі або лексікаграфічнымі даведнікамі, а ўжыванне іх пацвярджаецца ілюстрацыйнымі прыкладамі з сучаснага літаратурнага маўлення. Апрача таго, слоўнік істотна дапрацаваны. Гэта датычыць як асноўнай, лексікаграфічнай, часткі (многія артыкулы дапоўнены новымі ілюстрацыйнымі прыкладамі, у некаторых выпадках унесены папраўкі і ўдакладненні ў семантычную, сітуацыйную і стылістычную характарыстыку прыказак; акрамя гэтага адлюстраваны варыянтнасць некаторых прыказак і сінанімічныя адносіны паміж імі), так і ў ўступнай "Прадмове" дадаткова асэнсоўваюцца пытанні пра размежаванне паняццяў "прыказка" і "прымаўка", "прыказка" і "фразеалагізм" ды інш.

Гэты слоўнік – вынік карпатлівай працы яго складальнікаў, бо каб падрыхтаваць яго давялося прачытаць ці перачытаць не менш як тысячу мастацкіх і публіцыстычных кніг (галоўным чынам XX ст.) розных беларускіх аўтараў, каб не толькі выпісаць свежыя прыказкі, не зафіксаваныя парэміялагічнымі і лексікаграфічнымі працамі, але і праілюстраваць выкарыстанне іх у кантэксце твора.

Слоўнікавы артыкул, у якім апісваецца прыказка, уключае наступныя элементы: а) загалоўкавая прыказка; б) семантычная, а калі трэба, то і сітуацыйная і стылістычная характарыстыка (дзе гэта магчыма, паказваюцца сінанімічныя сувязі прыказкі з іншымі); в) ілюстрацыйны матэрыял; г) даведкавая частка. Для зручнасці карыстання слоўнікам прыказкі размяшчаюцца паводле алфавітнага парадку "апорных кампанентаў", у ролі якіх часцей за ўсё выступаюць назоўнікі (пры адсутнасці назоўнікавага кампаненту выкарыстоўваюцца субстантываваныя прыметнікі, займеннікі, лічэбнікі).

Каб чытач меў уяўленне пра будову слоўнікавага артыкула, падамо адзін прыклад: *"Баязліваму і корч мядзведзь. Баязлівы ўсяго баіцца, нават таго, што не можа быць небяспечным. Кажуць іранічна пра залішне асцярожнага чалавека. Сін.: Баязліўцу і заяц – воўк. – А не нарвёмся (на вартавых)? За дротам ужо не пашкадуюць. Канец на месц(ы)... – Баязліваму і корч мядзведзь" (В. Адамчык. Год нулявы).*

***Прыказкі***, кн. 2, с. 296: Баязліваму і корч мядзведзь.

Несумненную навуковую каштоўнасць мае вялікая "Прадмова", дзе ставіцца і вырашаецца шэраг спрэчных пытанняў парэміялогіі і парэміяграфіі. На адным з такіх пытанняў (пра размежаванне паняццяў "прыказка" і "прымаўка") варта спыніцца асобна, бо яно ў працах лінгвістаў (літаратуразнаўцаў, фальклarystаў) трактуецца даволі неадназначна, а нярэдка і супярэчліва.

Традыцыйнай стала думка, сфармуляваная ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (т.4, с. 449), у адпаведнасці з якой прымаўка ***"адрозніваецца ад прыказкі тым, што не з'яўляецца закончаным суджэннем і звычайна не мае павучальнага зместу".*** Аднак, як паказваюць назіранні І. Я. Лепешава і М. А. Якалцэвіч, іх вельмі часта зблытваюць, у тым ліку і ў тлумачальных слоўніках, дзе яны прыводзяцца як ілюстрацыйны матэрыял у слоўнікавых артыкулах.

Аўтары слоўніка крытычна ацэньваюць тыповыя погляды на размежаванне прыказак і прымавак, усталяваныя ў фалькларыстыцы і мовазнаўстве.

Так, у адпаведнвсці з лагічным поглядам, які склаўся ў пешай палове XIX ст. у працах рускіх фалькларыстаў і выяўляецца ў школьных падручніках па літаратуры, прыказка выражае закончанае суджэнне, а прымаўка абазначае паняцце і з'яўляецца незакончаным выказваннем. Прыхільнікі гэтага пункту погляду, які аўтарамі слоўніка справядліва ацэньваецца як анахранічны, да прымавак адносяць тыя выразы, якія сёння аднадушна называюцца фразеалагізмамі: *"чужымі рукамі жар заграбаць, не ўсе дома, дзесятая вада на кісялі, рэшатам ваду насіць".*

Паводле структурна-граматычнага погляду, якога прытрымліваюцца і некаторыя беларускія мовазнаўцы, прыказкі - гэта выслоўі, якія складаюцца з дзвюх частак, а прымаўкі – з адной. Аднак такі пагляд (у "Прадмове" ён акрэсліваецца як "бесперспектыўны, фармалістычны і нічым не апраўданы", с. 6) дае падставы некаторыя тыповыя прыказкі, напрыклад: *"Гарбатага магіла выправіць"* ці *"Для старца міля не круг"*, адносіць да прымавак, бо яны "адначасткавыя".

Няпроста адрозніваць прыказкі ад прымавак і паводле семантычнага крытэрыю, згодна з якім прыказка мае пераносны сэнс, а прымаўцы ён неўласцівы. Калі разглядаць прымаўкі з семантычнага боку, то выяўляецца, што яны, як справядліва сцвярджаюць аўтары слоўніка, "далёка не аднатыпныя моўныя адзінкі" (с.8): адны маюць алегарычны сэнс: *"На злодзеі шапка гарыць"* (той, хто правінаваціўся ў чым-небудзь, сам міжвольна выдае сябе сваімі паводзінамі), другія – часткова пераасэнсаваныя (напрыклад, у прыказцы: *"Яйцо курыцу вучыць"* (малады, недасведчаны вучыць старэйшага, больш дасведчанага) слова ***вучыць*** захоўвае сваё простае значэнне) і, нарэшце, ёсць такія прыказкі, якія заўсёды маюць толькі наўпроставае значэнне і не вымагаюць тлумачэння: *"Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абодвух"; "Век жыві - век вучыся".*

Падтрымліваючы меркаванне Ф. Янкоўскага аб "надуманасці размежавання прыказак і прымавак", аўтары слоўніка слушна заўважаюць, што "ўжыванне тэрміна ***"прымаўка"*** было ў пэўнай меры апраўданым, пакуль у мовазнаўстве не замацаваўся тэрмін ***"фразеалагізм"***, які фактычна выцесніў свайго папярэдніка для абазначэння адных і тых жа моўных адзінак – устойлівых, узнаўляльных зваротаў з цэласнай семантыкай" (С. 7-8). Такім чынам, упершыню ў беларускім мовазнаўстве выказана абгрунтаванае меркаванне пра немэтазгоднасць вылучэння прымавак як асобнага (побач з прыказкамі) тыпу парэмічных адзінак.

Цікавыя, навукова аргументаваныя меркаванні выказваюцца ў "Прадмове" наконт прыказак і фразеалагізмаў. Не адмаўляючы наяўнасці агульных (падобных) прыкмет паміж гэтымі адзінкамі, І. Я. Лепешаў і М.А. Якалцэвіч паказваюць уласцівыя ім істотныя, прынцыповыя адрозненні (лагічнага, структурнага, сінтаксічна-функцыянальнага і спалучальнага плана). Гэта дае падставы лічыць, што фразеалагізмы і прыказкі адзінкі неаднародныя, і, апрача таго, не ўключаць прыказкі (як, дарэчы, і крылатыя выразы, прыгаворкі) у склад фразеалогіі.

Не засталося па-за ўвагай аўтараў і такое няпростае (не толькі для студэнтаў і настаўнікў, але і выкладчыкаў ВНУ) пытанне, як варыянтнасць у галіне парэміялогіі. У залежнасці ад таго, адзінкі якога моўнага ўзроўню варыююцца ў прыказцы, вылучаюцца розныя тыпы прыказкавай вырыянтнасці: лексічныя, марфалагічныя, словаўтваральныя, сінтаксічныя, фанетычныя. Акрэсліваецца сутнасць кожнага тыпу варыянтаў, паказваецца ступень распаўсюджанасці ў мове, прыводзяцца ўдала падабраныя прыклады-ілюстрацыі. Заслугоўвае ўвагі думка аб тым, што агульнанародныя варыянты мэтазгодна адрозніваць ад індывідуальна-аўтарскіх варыяцый пэўнай прыказкі, ужыванне якіх апраўданае толькі ў мастацкім творы з мэтай дасягнення пэўнага стылістычнага эфекту. Як прыклад можна прывесці стылістычна абноўлены варыянт прыказкі: "Гультай за работу - мазоль за руку" ў п'есе Я. Коласа "У пушчах Палесся": "Саўка з выгляду просты чалавек, а натура яго панская: Саўка за работу, мазоль за руку".

Належнае месца адводзіцца ў "Прадмове" пытанню пра падачу прыказак у парэміялагічных зборніках і тлумачальных слоўніках. Аўтары выказваюць шэраг цікавых думак, да якіх не шкодзіла б прыслухацца тым, хто мае дачыненне да парэміяграфічнай і лексікаграфічнай дзейнасці, адзначаюць выяўленыя імі тыповыя памылкі (хібы, промахі), якія нярэдка вандруюць з слоўніка ў слоўнік, з даведніка ў даведнік. Гэта датычыць, напрыклад, прынцыпаў падачы прыказак (тэматычны, алфавітны і інш.); апісання фразеалагізмаў у слоўніках прыказак; кваліфікацыі індывідуальнай варыяцыі прыказкі як агульнанароднай; характарыстыкі кантэкстава абумоўленых спалучэнняў слоў як прыказак; апісання варыянта той самай прыказкі не ў адным слоўнікавым артыкуле, а ў двух; недакладнай семантызацыі прыказак; неабгрунтаванага падбору іншамоўных адпаведнікаў да пэўнай прыказкі.

У "Прадмове" разглядаецца таксама і пытанне пра спосабы ўключэння прыказак у тэкст мастацкіх і публіцыстычных твораў. У прыватнасці, адзначаецца, што адным з найбольш пашыраных спосабаў з'яўляецца бяззлучнікавым ці складаназалежным сказам, у якім першая частка – уводна-ацэначная формула тыпу *"нездарма ж людзі кажуць", "праўду людзі кажуць", "у народзе кажуць"* і інш..:

"Нездарма ж кажуць, што ахвота горш за няволю" (М. Вадановаў. Надзеі і спадзяванні); "Праўду кажуць людзі: адклад не ідзе ў лад" (Л. Левановіч. Якар надзеі); "Праўду кажуць, што гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам абавязкова стрэнуцца" (Я. Васілёнак. Адзіночная камера); "І праўда: пасяшыш – людзей насмяшыш" (У. Ягоўдзік. Пугачова песня).

"Слоўнік беларускіх прыказак" І. Я. Лепешава і М. А. Якалцэвіч, у якім сабраны і дбайна апісаны гэтыя народныя выслоўі як адзін з сродкаў мастацкай выразнасці, будзе карысным не толькі навукоўцам, выкладчыкам і студэнтам ВНУ, настаўнікам-філолагам, а і ўсім, хто цікавіцца беларускай мовай, рупіцца, каб сваю думку перадаць па-народнаму трапна і вобразна.

***Васіль Рагаўцоў, заг. кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. А. Куляшова, прафесар.***

# З словам Божым – да людзей

Рэлігійны друк патрэбны не толькі вернікам. Ён патрэбны ўсім тым, хто шукае адказы на хваляўнічыя пытані ў Бога, хто вагаецца на жыццёвай дарозе, хто шукае выйсця ці паратунку. Сёння на беларускай мове выходзяць каталіцкія выданні "Наша вера", "Ave Maria", "Маленькі рыцар Беззаганнай". У рамках дзён хрысціянскай культуры з рэдкалегіяй гэтых часопісаў былі наладжаны цікавыя творчыя сустрэчы. Яны адбыліся ў касцёле Святой Барбары і, пасля вячэрняй імшы, у капліцы Езуса Міласэрнага. На наступны дзень – у капліцы Маці Божай Саляцінскай.

Часопіс "Наша вера" разлічаны на падрыхтаванага чытача, але ён будзе карысны не толькі вернікам. Артыкулы па гісторыі мастацтва і архітэктуры, выдатных людзей (напрыклад, такіх, як Язэп Драздовіч) незамяняльная інфармацыя для настаўнікаў і студэнтаў-гісторыкаў. Сур'ёзныя пераклады (што зрабіш, мала аўтэнтычных тэкстаў, напісаных беларускімі аўтарамі!) па тэалогіі, хрысціянскай філасофі таксама будуць цікавыя не толькі спецыялістам. Паэзія, пераклады, звесткі з культуры і гісторыі будуць карысныя ўсім, хто хоча павысіць свой узровень адукацыі. Дарэчы, гісторыя адукацыі таксама разглядаецца. Па словах галоўнага рэдактара "Нашай веры" і "Ave Maria", празаіка і перакладчыка з польскай мовы Крысціны Лялько ў часопісах "...атрымаў магчымасць надрукавацца той, хто працуе ў архівах, і надрукаваць тое, што было напрацавана гадамі." Такія ж мэты і надалей застаюцца галоўнымі для рэдакцыі. Адну з галоўных праблемаў Хрысціна Лялько бачыць у тым, што маладыя людзі пасля атрымання адукацыі ў Беларусі ці за мяжой знікаюць як аўтары і супрацоўнікі. У далейшах жа перспектывах - наладзіць больш цесную сувязь рэдакцыі з чытачамі.

Віцебскія каталікі мелі магчымасць набыць гэтыя часопісы і кнігі. Нядаўна выйшла кніга Ірыны Жарнасек "Гадара". Аўтарка яшчэ і рэдактар часопіса для дзяцей "Маленькі рыцар Беззаганнай" Ірына Жарнасек - празаік, мае некалькіх кніжак, перакладае з польскай мовы. Пад час жа сустрэчаў яна ўражвала слухачоў сваімі вершамі. Апавяданні новай кнігі аб'яднаныя ў два цыклы. У першым пісьменніца разважае над асобнымі старонкамі Евангелля, другі – прысвечаны сучаснасці. Кожнае апавяданне (дынамічнае і запамінальнае) нагадвае духоўны свет чалавека, роздум і ўзіранне ў кожны куточак складанай чалавечай душы.

Ахвотныя мелі магчымасць набыць і кнігу ксяндза Эдварда Станека "З клопатам пра сумленне. Развагі над дэкалогам".

Паводле словаў Крысціны Лялько Віцебшчына найбольш плённа чытае часопісы і іншую літаратурв. І сапраўды, нягледзячы на вялікі мароз, людзей было шмат. Было і шмат падзяк за выдавецкую працу, жаданняў, каб і надалей адбываліся такія сустрэчы.

***Ганна Навасельцава, студэнтка факультэта беларускай філалогіі і культуры ВДУ ім П. М. Машэрава.***

 

# Гартаючы старонкі жыцця

*“Не белы бэз пахучам
чадам,
а на кустах зацвіў мароз,
і градам буйных горкіх слёз
звісае жменя вінаграду.”*
*(“У асенні дзень”
Ларыса Геніюш.)*

Лёс, падараваў мне шмат сустрэч з цікавымі людзьмі, якія пакінулі добрую памяць, з многімі завязалася цеснае сяброўства на доўгія гады. Але гэтая сустрэча з добрым чалавекам прынесла асаблівую радасць. Пазнаёміліся мы, дзесьці, напрыканцы Вільні. Спатканне адбылося на адной беларускай імпрэзе у Палацы прафсаюзаў, святкавалі 70-годдзе віленскай беларускай гімназіі. Тады я пазнаёмілася і з Янкам Багдановічам. Уразіў голас, Мікалай Рулінскі спяваў гімн “Магутны Божа” на словы Наталлі Арсенневай, многія прысутныя з маладога пакалення ўпершыню пачулі гімн і адкрылі імя паэткі. З таго часу я не прапускала ніводнай беларускай імпрэзы і заўсёды там сустракала Мікалая Максімавіча. Вясёлы, жыццярасны чалавек, ён спяваў “Магутны Божа”, або “Мы выйдзем шчыльнымі радамі,” гэта было яго любімае, якое часта можна было пачуць і ў яго на кватэры. Яшчэ цудоўна выконваў песню “Ой, Нёман, ой бацька наш родны” на словы А. Астрэйкі, быў цікавы суразмоўца, чалавек – гісторыя, чалавек складанага лёсу. Часта мы з ім сустракаліся, часта бывала ў яго дома, разам святкавалі беларускія нацыянальныя святы. Размовы нашы звычайна пачыналіся з будзённага, але паступова ён успамінаў мінулае, і кожны раз я даведвалася пра невядомыя старонкі гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Ён, вывез частку архіву Кастуся Езавітава, імя якога па доўгія дзесяцігоддзі будзе забароненым. Шмат Мікалай Максімавіч адкрыў таямніц. Я цікавілася гісторыяй віленскай беларускай гімназіі (1919-1944 г.), вучнем якой быў шаноўны М. Рулінскі. Нарадзіўся ён недалёка ад Баранавіч, у сям’і праваслаўнага святара. Па службе бацьку пераводзілі з аднаго прыходу ў другі, Ён быў добрым будаўнікам, арганізатарам, пры царкве арганізаваў хор, у якім з дзяцінства спяваў Мікалай, таму і меў прафесійна пастаўлены голас. Пачатковую школу скончыў у Любчы, там быў тады прыход бацькі. Навучанне было па польскай мове, але вучылі і беларускую. З дзяцінства цягнула яго да набыцця ведаў. І бацька адправіў Мікалая для дальнейшай вучобы ў Віленскую Беларускую гімназію, у Вільні у той час вучыўся старэйшы брат Змітрук. Гімназія знаходзілася на вуліцы Вострабрамскай, 9, у Базыльянскіх мурах. Тут у 19 стагоддзі збіралася патрыятычна настроеная маладзь – студэнты, Віленскага універсітэта (філаматы і філарэты), сярод іх і зямляк Мікалая Максімавіча, сын беларускай зямлі Адам Міцкевіч. Даволі паспяхова здаў іспыты. Галоўнае – Мікалай добра ведаў беларускую мову, бо дома размаўлялі выключна па-беларуску. Пры здачы экзаменаў прачытаў верш Янкі Купалы “Вучыся, нябожа, вучэнне паможа”. Экзамен прымала Алена Лекант, яна была задаволена, дый усе астатнія добра здаў. І быў залічаны ў першы клас. Было гэта ў 1936 годзе. З кватэрамі ў Вільні былі цяжкасці, але ж свет не без добрых людзей, спачатку дапамог знаёмы брата, а праз год атрымаў пакой у інтэрнаце “Бурса для земляў паўночна-ўсходніх”. Там ужо было добра, пераважна жылі хлопцы-беларусы, і гімназія знаходзілася недалёка. Першым дырэктарам у Мікалая Максімавіча быў Мікалай Анцукевіч. Самымі дарагімі настаўнікамі былі Алена Лехант-Сакалова – настаўніца беларускай мовы, для вучняў яна была яшчэ і сапраўднай маці, цікавілася ўмовамі іх жыцця, навукі, дапамагала чым магла. Пройдуць гады, стануць дарослымі яе вучні, будуць звяртацца да яе па парады як і раней праводзяць у апошні шлях і кожны год на дзень гімназіі ( 1 мотага) прыносілі кветкі і запальвалі свечку на яе магіле на Ліпоўцы. Матэматыку выкладаў Барыс Кіт. Спевам, ігры на духавых музычных інструментах вучыў Сымон Кароль.

Ён кіраваў і хорам у Пятніцкай царкве, якая належала да беларускай школы, набажэнствы адбываліся па-беларуску, вёў святар А. Коўш. М. Рулінскі спяваў у хоры і чытаў псалмы. Гады вучобы ў гімназіі засталіся, як добры ўспамін на ўсё жыццё. Тады, даўно, яны былі бедныя, часта галодныя, дрэнна апранутыя, у асноўным вясковыя дзеці, якіх, нягледзячы на цяжкасці, з розных куткоў Беларусі, бацькі адправілі вуыцца на роднай мове, Вільня стала кузняй беларускй інтэлігенціі. Гэта былі самыя шчаслівыя гады, успамінаў як рускай Гімназіі (ВБГ), святкавалі ў памяшканні былой гімназіі. Прыехалі тыя, хто некалі ў ёй вучыўся з Беларусі, Польшчы, Прыбалтыкі. Пасля дзесяткаў гадоў разлукі, такое шчаслдівае спатканне, такі спрыяльны час – адраджэнне. Святкавалі вясной, калі нават і надвор’е спрыяла. У 1999



**Мікалай Максімавіч Рулінскі з жонкай Кірай Прохараўнай Рулінскай (былыя вучні ВБГ) на святкаванні 80-годдзя ВБГ. Вільня 1999 год. Фота Леакадзіі Мілаш.**

асалоду Мікалай Максімавіч, зноў і зноў вяртаючыся ў маладосць. У Вільні былі польская, руская, літоўская беларуская гімназліі. У час святаў выходзілі гімназісты на вуліцы са сваімі сцягамі. Беларусы – з бел-чырвона-белым. Другая сусветная вайна перашкодзіла закончыць Віленскую гімназію, працягваў вучобу у Навагradскай, уступіў СБМ, служыў у беларускім войску. Дзень Перамогі сустрэў у Польшчы. Там жа агенты КДБ яго арыштавалі і аднаго самалётам пераправілі ў Маскву. Быў упэўнены, што гэта нейкая памылка. Ды не, за беларускую свядомасць без суда і следства трапляе аж на цэлых восем гадоў у сталінскія лагеры. Пакаранне адбывае ў Омску. Тады нічога не хацелася, толькі б выжыць. Вызвалілі нас пасля смерці Сталіна. Вярнуўся ў 70-х гадах на радзіму ў Беларусь, якой верай і праўдай служыў, Але радзіма не прыняла свайго сына, ён не быў патрэбны ёй, і яна стала чужой. Прыехаў у Вільню, уладкаваўся ў Грычышкі на папераву фабрыку, на якой працаваў да выхаду на заслужаны адпачынак. У маладосці марыў стаць лекарам, або архітэктарам. Але не заўлёды бывае так, як хочацца, жыццё робіць свае карэктывы. Памятным быў для яго 1994 год, у Вільні ўрачыста адзначалі 76 годдзе Віленскай Беларускай годзе – 80 годдзе. Парадзелі значна шэрагі гімназістаў. Будучы на пенсі М. Рулінскі пісаў вершы, маляваў краявіды, шмат чытаў, цікавіўся падзеямі па Бацькаўшчыне, сустракаўся з сябрамі, аднадумцамі. Ён не быў рэабілітаваны. Палічаў не патрэбным прыніжацца, аднятага здароўя, маладосці, пакалечанага лёсу не вернеш.

Парадзелі шэрагі і беларусаў Вільні, няма ўжо і Мікалая Рулінскага, ён адышоў у іншы свет 23 кастрычніка, не дажыў некалькіх месяцаў да свайго 80-годдзя. Памёр у Бярозаўцы, у 2001г. памерла яго жонка, апошні год жыў у дачкі. Мікалай Рулінскі – вучань ВБТ, жаўнер беларускага войска, доўгія гады ўзначальваў Троцкую суполку беларусаў, дэлегат першага з’езду беларусаў свету, І і ІІ з’ездаў беларусаў краін Балтыі, сесіі БНР, сябар ТБК. У апошні шлях яго праводзілі як жаўнера беларускага войска, дамавіну накрылі бел-чырвона-белай палатнінай з выявай “Пагоні”.

Ён пакінуў добры след на зямлі, светлая памяць аб ім застанецца ў тых, хто яго ведаў.

І закрыта апошняя старонка жыцця.

Хай будзе зямля пухам.

*Старшыня Троцкай суполкі,*
*Леакадзія Мілаш.*

# “Беларусаў Вільні стала менш”

*Але пра ўсё сказаць не здолеў,*
*Пачаткі і канцы звязаць,*
*Выходзіць, што такую долю*
*Прасцей пражыць, чым расказаць.*
*(Сяргей Грахоўскі “Адбой”)*

Напрыканцы 80-х гадоў першай Зоська Верас выказала думку аб стварэнні гуртка беларусаў, або клубу, думка ўсім прыпала да сэрца. Я атрымала поштоўку ад Вальдаса Банайціса (урача-нарколага), запрашэнне прыйсці на літаратурную вечарыну ў кнігарню (вул. Пяргалес). Ён звярнуўся па чыгуначны паштамт, дзе і сабраў звыш 1000 падпісчыкаў “ЛіМа”, “Полымя”, “Беларусі”, “Звязды”, “Работніцы і сялянкі.” (Дарэчы, усе гэтыя выданні былі да набыцця і ў віленскіх шапіках). Пачалі збірацца: Янка Багдановіч, Вера Шостак, Лявон Луцкевіч, Леакадзія Мілаш, Людвіка Кардзіс, Валянцін Стэх) і іншыя. Тады з’явілася думка стварыць хор, тым больш, што сярод тых, хто збіраўся разам быў прафесійны спявак, былы саліст Віленскай оперы (30 гадоў быў салістам Літоўскай філармоніі) Юрка Зямніцкі. Прыйшлі першымі ў хор Лявон Луцкевіч, Лявон Кароль (яны дапамагалі выбіраць рэпертуар), Мікола Рулінскі, Наталля Яруліна, Неаніла Конанава, я і іншыя. Спачатку ў рэпертуары былі песні 1918 г. –патрыятычныя, потым рэпертуар папаўняўся. Збіраліся на рэпетыцыі ў Палацы прафсаюзаў у 15 гадзін, прысутнасць усіх харыстаў абавязковая. Хутка хор пачаў выступаць у Вільні на свяце Славянскай пісьменнасці, у Грыгішках, нават выязджаў у Беларусь, у Варняны на свята “Пра ўсё сказаць прыйшла пара”. Канцэртмейстарам хору была яго дачка Таццяна Скорая (выкладчык літоўскай Акадэміі музыкі). Хор “Сябрына” выступаў на розных гарадскіх мерапрыемствах у Вільні і іншых гарадах Літвы. Да 1995 года кіраваў хорам Юрка Зямніцкі, далей працягваць працу не змог па стану здароўя. Варта адзначыць, што ён і яго дачка ўвесь гэты час у выхадны дзень, а яшчэ і выступленні, працавалі безкарысна, без усякай аплаты, самаахвярна, як гэта рабілі беларусы на пачатку XX стагоддзя і ў міжваенны перыяд.

Юра Зямніцкі нарадзіўся ў Вільні ў 1921 годзе.

Закончыў Ковенскую акадэмію лясной гаспадаркі, потым Віленскую кансерваторыю.

Усё яго жыццё звязана з Вільняй. Актыўна ўдзельнічаў у розных мерапрыемствах наладжаных беларусамі. У Юры Іосіфавіча былі разнабаковыя захапленні. Многа гадоў займаўся вырошчваннем кактусаў, ствараў манімальна натуральныя ўмовы для кветак. А кактусы цвілі круглы год. Іх у Юры Зямніцкага некалькі тысяч. Аб гэтым яго захапленні зняты дакументальны фільм. Яшчэ Ю. Зямніцкі захапляўся пчалярствам. Для гэтага ён пабыў дамок на беразе Нярыс, вакол лес, паляны. Прыгожа ў розную пару года.

Час бяжыць хутка. Нажаль, 8 снежня 2002 года не стала Юры Зямніцкага. Пражыў ён 81 год, добры след пакінуў пасля сябе. Адыходзяць не проста людзі – эпоха, гісторыя, сведкі многіх гістарычных падзей мінулага стагоддзя. Ён застанецца ў памяці тых, хто яго ведаў. Пахавалі Ю. Зямніцкага на праваслаўных Свята Еўфрасіньеўскіх могілках.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

## Шаноўнае спадарства

Магчыма, у 2003 г. Беларускаму ПЭН-цэнтру ўдасца наспрыяць выданню некалькіх кніг. Калі Вы маеце падрыхтаваны да друку рукапіс, калі ласка, дашліце на e-mail volha@pen.unibel.by альбо паведаміце па тэлефоне 288 – 14 – 61 наступныя звесткі:

А) імя і прозвішча аўтара,

Б) назва кніг,

В) кароткае яе апісанне (не больш за адзін сказ), напр.: “Новая кніга вершаў народнага паэта Беларусі” або “Навучальны дапаможнік па гісторыі XX стагоддзя для навучэнцаў тэхнікумаў і ПТВ”,

Г) меркаваны выдавец,

Д) прыблізны каштарыс таго, чаго Вам не стае, каб выдаць кнігу (напр., кошт паперы – XXX, друку – XXX, вёрсткі – XXX, ганарары аўтараў – XXX),

Е) аб’ём у друкарскіх аркушах.

**З павагай Вольга Калацкая.**

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас,
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч,
Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш,
Язэп Палубятка,
Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун,
Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік,
Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор
і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 29. 01. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 36.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.